# БЕЛАРУСКАЯ МОВА

Падручнік для 4 класа
ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі
з рускай мовай навучання

У дзвюх частках

Частка 2

*Зацверджана*
*Міністэрствам адукацыі*
*Рэспублікі Беларусь*

2-е выданне,
выпраўленае і дапоўненае



МІНСК
НАЦЫЯНАЛЬНЫ ІНСТЫТУТ АДУКАЦЫІ
2013

УДК 811.161.3(075.2=161.1)
ББК 81.2Беи-922
Б43

Р э ц э н з е н т:

заг. лабараторыі пачатковай адукацыі Навукова-метадычнай установы «Нацыянальны інстытут адукацыі» Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь, д-р пед. навук, дац. *І. І. Паўлоўскі*

## Умоўныя абазначэнні:

 — дамашняе заданне;

 — правіла;

 — дадатковае заданне да практыкавання;

 — падказка слоўніка

Б43 **Беларуская** мова : падруч. для 4-га кл. устаноў агул. сярэд. адукацыі з рус. мовай навучання. У 2 ч. Ч. 2. / Т. М. Валынец [і інш.]. — 2-е выд., выпр. і дап. — Мінск : Нац. ін-т адукацыі, 2013. — 104 с. : іл.
ISBN 978-985-559-264-9.

**УДК 811.161.3(075.2=161.1)**
**ББК 81.2Беи-922**

**ISBN 978-985-559-264-9 (ч. 2)**
**ISBN 978-985-559-262-5**

# ПРЫМЕТНІК

## ПРЫМЕТНІК ЯК ЧАСЦІНА МОВЫ




Успомніце! Словы, якія абазначаюць прыметы прадметаў і адказваюць на пытанні я к і? я к а я? я к о е?, называюцца **прыметнікамі.**

У сказе прыметнікі звязаны з назоўнікамі: *Алесь атрымаў* ***выдатную адзнаку****. Каля дома расце* ***высокі клён****. Каці купілі* ***новыя чаравікі****.*

**1.** Прачытайце. Пастаўце да прыметнікаў пытанні. Выпішыце прыметнікі разам з назоўнікамі, да якіх яны адносяцца.

У з о р. *Адзенне* (я к о е?) *белае*.

Ёсць некалькі варыянтаў тлумачэння паходжання назвы Беларусь.

I. Белае адзенне даўніх вясковых людзей, белыя іх валасы, белы колер скуры.

II. Калі на нашы стражытныя славянскія землі прыйшлі татара-манголы, то здолелі адбіцца ад іх амаль адны толькі мы. І таму наша радзіма «белая», што значыць «чыстая ад нашэсця татараў». *(Паводле У. Караткевіча)*

**2.** Прачытайце загадкі і адгадайце іх.

1. Улетку шэры,
узімку белы,
доўгія вушы мае,
хутка ў лес уцякае.

2. Маленькі, шустранькі звярок
скача з елкі на дубок.

3. Марозная, калючая,
снежная, скрыпучая,
прыйшла да нас сама
халодная ... .

● Назавіце прыметнікі, якія дапамаглі вам адгадаць загадкі.

● Параўнайце націскі ў беларускім слове *маленькі* і рускім *маленький*.

**3.** Спішыце, устаўце прапушчаныя літары. Вызначце, да якой часціны мовы адносяцца словы.

Хол..д, х..лодны, хал..днець;
м..роз, м..розны, м..розіць;
в..сна, в..сновы, прадвесне;
в..сёлы, в..сёлка, вес..ліцца;
б..роза, б..розавы, б..рэзнік, падб..розавік;
лета, летні, леташні.

● Што абазначаюць словы *вясёлка*, *леташні*, *прадвесне*?

**4.** Прачытайце. Выпішыце аднакаранёвыя словы парамі па ўзоры, абазначце ў іх корань. У прыметніках абазначце таксама суфікс.

Узор. *Шкло — шкляны.*

Зіма, цагля́ны, дуб, шкло, вечар, сталь, дубовы, вёска, шкляны́, цэгла, жалеза, сталёвы, гарадскі, жалезны, зімні, вячэрні, вясковы, горад.

**5.** Прачытайце. Адзін з назоўнікаў кожнага словазлучэння замяніце прыметнікам такім чынам, каб пры гэтым не змяніўся сэнс словазлучэння. Запішыце па ўзоры.

Узор. *Хлеб з пшаніцы — пшанічны хлеб.*

Хлеб з пшаніцы, пярсцёнак з золата, дом з дрэва, гараж з цэглы, пячэнне з аўса, абутак са скуры, сцяна з каменю, караблік з паперы, нож са сталі, збан з гліны.



**6.** Запішыце назвы (назоўнікі) намаляваных прадметаў і як мага больш прымет (прыметнікаў) да іх.

Узор. *Заяц — белы, пушысты, баязлівы, даўгавухі, ...*



## ЗАЛЕЖНАСЦЬ ФОРМЫ ПРЫМЕТНІКА АД ФОРМЫ НАЗОЎНІКА Ў РОДЗЕ І ЛІКУ




Прыметнік заўсёды звязаны з назоўнікам. Прыметнік мае той самы род, што і назоўнік, з якім прыметнік звязаны. Напрыклад: *вялік*[*і*] *магазін* (м. р.), *вялік*[*ая*] *гара* (ж. р.), *вялік*[*ае*] *акно* (н. р.).

Прыметнікі мужчынскага роду маюць канчаткі ***-ы***, ***-і***, жаночага — ***-ая***, ***-яя***, ніякага — ***-ае***, ***-ое***, ***-яе***.

**7.** Прачытайце. Пастаўце прыметнікі ў патрэбным родзе.

*(белы)* воблака
*(цёмны)* хмара
*(ясны)* месяц
*(высокі)* дрэва
*(нізкі)* трава
*(густы)* куст

*(шырокі)* акно
*(саламяны)* лялька
*(прасторны)* дом
*(мяккі)* крэсла
*(пісьмовы)* стол
*(новы)* канапа

- Запішыце словазлучэнні ў наступным парадку:

а) з прыметнікамі мужчынскага роду;
б) з прыметнікамі жаночага роду;
в) з прыметнікамі ніякага роду.

- Абазначце канчаткі прыметнікаў.

**8.** Прачытайце. Спішыце. Абазначце род прыметнікаў і іх канчаткі.

Вялікі зялёны кракадзіл ляжаў на беразе мале́нькага штучнага вадаёмчыка, зробленага для яго працаўнікамі заапарка. Калі кракадзіл паволі ссунуўся ў мутную шэрую ваду, яго масіўнае цела стала нагадваць падводную лодку.

- Назавіце ў тэксце прыметнікі-антонімы.
- У якім склоне ўжываецца слова *кракадзіл*?




Каб лягчэй было вызначыць род прыметніка, пастаўце яго разам з назоўнікам, да якога адносіцца прыметнік, у форму назоўнага склону. Напрыклад: *маленькага вадаёмчыка* — *маленькі вадаёмчык* (м. р.).

**9.** Прачытайце словазлучэнні. Дапішыце канчаткі прыметнікаў, абазначце іх род.

Ярк.. сонца, цёмн.. хмара, бел.. воблака, густ.. туман, спорн.. дождж, лёгк.. ветрык, пушыст.. снег, сярдзіт.. завіруха, вячэрн.. зорка, сух.. надвор’е, нов.. чаравікі.

- Растлумачце значэнне слоў *лёгкі* і *сярдзіты* ў словазлучэннях *лёгкі ветрык* і *сярдзітая завіруха*. Падбярыце сінонімы да гэтых прыметнікаў.

Прыметнік мае той самы лік, што і назоўнік, з якім прыметнік звязаны: *цікав*|*ая*| *нов*|*ая*| *кніга* — адзіночны лік, *цікав*|*ыя*| *нов*|*ыя*| *кнігі* — множны лік.

Прыметнікі ў назоўным склоне множнага ліку маюць канчаткі ***-ыя***, ***-ія***.

**10.** Прачытайце. Пастаўце назоўнікі разам з прыметнікамі ў множным ліку. Запішыце, абазначце канчаткі прыметнікаў.

Зялёнае поле, шырокая рака, высокі бераг, сіняе мора, зімняя дарога, халодны вецер.




Заўважце! Канчаткі прыметнікаў усіх трох родаў у множным ліку аднолькавыя: *шырок*|*і*| *калідор* — *шырок*|*ія*| *калідоры*, *шырок*|*ая*| *дарога* — *шырок*|*ія*| *дарогі*, *шырок*|*ае*| *поле* — *шырок*|*ія*| *палі*, таму вызначыць род прыметнікаў, як і назоўнікаў, можна толькі ў адзіночным ліку.

**11.** Прачытайце. Дапішыце канчаткі прыметнікаў у множным ліку і абазначце іх.

Да аблокаў над ракой
гмахі ўзнімаюцца —

сін.., чырвон..,
жоўт.., зялён..,
бел.., ружов.. —
многакаляров..,
чыст.., празрыст..,
поўн.. святла.

*І. Муравейка*



*Гма́х* — высокі будынак.

**12.** Прачытайце верш. Спішыце. Абазначце лік назоўнікаў і прыметнікаў.

Я летні дзень намалявала,
я фарбаў не пашкадавала...
Зялёны лес ля сіняй рэчкі,
а там — чырвоныя парэчкі.
Каля гары бялее дом,
дах адлівае серабром,
а за гарой жаўцее жыта,
зямля ўся сонейкам заліта.

*І. Муравейка*

● Словамі якіх часцін мовы перададзены колеры дома, даху, жыта?

Як вы лічыце, ці можна перадаць колеры гэтых прадметаў прыметнікамі? Калі можна, то назавіце гэтыя прыметнікі.



**13.** Злучыце назоўнікі з прыметнікамі. Змяніце, дзе трэба, род і лік прыметнікаў і абазначце канчаткі.

Узор. *Свеж*[*ы*] *хлеб*, ...

| | | | |
|---|---|---|---|
| свежы | хлеб<br>газета<br>паветра | залаты | медаль<br>рукі<br>ніва |
| рэдкі | дождж<br>сетка<br>выпадкі | | |

● У словазлучэнні *залатыя рукі* замяніце прыметнік *залатыя* яго сінонімам. У якім словазлучэнні да прыметніка *залаты* нельга падабраць сінонім?

## СКЛАНЕННЕ ПРЫМЕТНІКАЎ




Прыметнікі, як і назоўнікі, змяняюцца ***па склонах*** — скланяюцца.

Прыметнік заўсёды стаіць у тым самым склоне, што і назоўнік, з якім гэты прыметнік звязаны.

**14.** Разгледзьце табліцу. Параўнайце канчаткі пытанняў і канчаткі прыметнікаў. Якія канчаткі маюць прыметнікі мужчынскага, жаночага і ніякага роду ў кожным склоне?

## Скланенне прыметнікаў у адзіночным ліку

### *Мужчынскі род*

| | | | |
|---|---|---|---|
| Н. я к і? | высок і | прыгож ы | дом |
| Р. я к о г а? | высок ага | прыгож ага | дома |
| Д. я к о м у? | высок аму | прыгож аму | дому |
| В. я к і? | высок і | прыгож ы | дом |
| Т. я к і м? | высок ім | прыгож ым | домам |
| М. у я к і м? | у высок ім | прыгож ым | доме |
| Н. я к і? | дараг і | родн ы | чалавек |
| Р. я к о г а? | дараг ога | родн ага | чалавека |
| Д. я к о м у? | дараг ому | родн аму | чалавеку |
| В. я к о г а? | дараг ога | родн ага | чалавека |
| Т. я к і м? | дараг ім | родн ым | чалавекам |
| М. а б я к і м? | аб дараг ім | родн ым | чалавеку |

### *Жаночы род*

| | | | |
|---|---|---|---|
| Н. я к а я? | лясна ая | ранн яя | кветка |
| Р. я к о й? | лясн ой | ранн яй | кветкі |
| Д. я к о й? | лясн ой | ранн яй | кветцы |
| В. я к у ю? | лясн ую | ранн юю | кветку |
| Т. я к о й? | лясн ой | ранн яй | кветкай |
| М. н а я к о й? | на лясн ой | ранн яй | кветцы |

### *Ніякі род*

| | | | |
|---|---|---|---|
| Н. я к о е? | жыв ое | шчыр ае | слова |
| Р. я к о г а? | жыв ога | шчыр ага | слова |
| Д. я к о м у? | жыв ому | шчыр аму | слову |
| В. я к о е? | жыв ое | шчыр ае | слова |
| Т. я к і м? | жыв ым | шчыр ым | словам |
| М. а б я к і м? | аб жыв ым | шчыр ым | слове |

● Звярніце ўвагу на тое, у якіх склонах канчаткі прыметнікаў мужчынскага і ніякага роду адрозніваюцца, а ў якіх склонах яны аднолькавыя і для мужчынскага, і для ніякага роду.




**Каб вызначыць склон прыметніка, трэба вызначыць склон назоўніка, да якога гэты прыметнік адносіцца. Напрыклад: *сябраваць з новым аднакласнікам* (Т. скл.).**

**15.** Вызначце склон выдзеленых прыметнікаў у наступных сказах. (Пры неабходнасці звяртайцеся да табліцы на с. 11—12.)

1. Праз **шурпатую** пасцілку з рыжых іголак прабіваецца **зялёная** травіца. *(І. Грамовіч)* 2. У **сінім** небе пад белымі аблокамі звініць песня **веснавога** жаўрука. *(І. Шамякін)*

## Назоўны склон

**16.** Прачытайце. Запішыце. Абазначце канчаткі прыметнікаў у назоўным склоне. Пастаўце націск у прыметніках і абазначце род назоўніка па ўзоры.

У з о р. *Цёпл[ы] сух[í] ле́тн[і] дзень (м. р.).*

Цёплы сухі летні дзень, роднае дарагое сіняе неба, доўгая глухая асенняя ноч.

Прыметнікі мужчынскага роду ў назоўным склоне маюць канчаткі ***-ы, -і;*** жаночага роду — ***-ая, -яя;*** ніякага роду — ***-ое, -ае, -яе.***

**17.** Прачытайце. Спішыце. Вызначце склон і род выдзеленых прыметнікаў, абазначце ў іх канчаткі. З якімі назоўнікамі звязаны гэтыя прыметнікі?

**Не блакітнае, а чорнае** неба разляглося над намі ў космасе.

Зоркі вісяць нізка над галавой. І кожная **буйна́я, яркая** зорка свеціць, як малюсенькае сонейка.

Над зямлёй узыходзіць **вялізнае, яркае, белае** сонца. **Прыгожы блакітны** акіян абмывае з аднаго боку Амерыку, з другога — Азію. **Блакітная** Зямля паволька плыве ў чорным космасе. *(Паводле П. Клімука)*

- Падкрэсліце ў сказах дзейнікі.
- Што вы ведаеце пра аўтара гэтага апісання космасу?

**18.** Прачытайце. Знайдзіце і выпішыце з тэксту прыметнікі ў назоўным склоне разам з назоўнікамі. Абазначце канчаткі прыметнікаў.

### У лагеры

У бары стаіць прыгожы казачны горад. Цёплае возера плешчацца каля высокіх соснаў. Тут адпачываюць дзеці з усёй рэспублікі.

Звонкая раніца пачынаецца гукамі вясёлага горна. Пад'ём, потым ранішняя зарадка, снеданне. Потым многа-многа розных спраў.

Доўгі летні дзень абяцае шмат цікавага. *(П. Паўлаў)*



**19.** Спішыце, устаўце канчаткі.

Малад.. **бярозав.. лясок**, лёгк.. бел.. адзенне, **пахуч.. лугав..** кветка, мал.. дзіця, ільнян.. сін.. абрус, блакітн.. пралеска.

- У выдзеленых словах абазначце суфікс.

## Родны склон

**20.** Запішыце спалучэнні слоў у родным склоне. Абазначце канчаткі прыметнікаў. (Пры неабходнасці звяртайцеся да табліцы на с. 11—12.)

Цёплы сухі летні дзень, ляснoе глыбокае сіняе возера, доўгая глухая асенняя ноч.

**21.** Прачытайце. Спішыце. Пастаўце прыметнікі ў патрэбным родзе і склоне. Абазначце канчаткі. Назавіце склон прыметнікаў. (Пры неабходнасці звяртайцеся да табліцы на с. 11—12.)

1. Выйшаў з *(густы)* лесу. 2. Дрэвы гнуцца ад *(моцны)* ветру. 3. Прыехалі да самага *(сіні)* мора. 4. Таполя расла каля *(глыбокі)* возера. 5. Стаміўшыся пасля *(доўгі)* дарогі, не пі *(халодны)* вады. 6. Пасля *(доўгі асенні)* ночы наступае *(хмурны)* раніца. 7. Праз цэнтр *(новы)* пасёлка цячэ *(невялікі)* рэчка.

Прыметнікі мужчынскага і ніякага роду ў родным склоне маюць канчаткі ***-ога, -ага, -яга;*** жаночага роду — ***-ой, -ай, -яй.***

**22.** Наступныя спалучэнні прыметнікаў з назоўнікамі пастаўце ў родным склоне. Запішыце, у прыметніках выдзеліце канчаткі.

Доўгі цень, малады сад, залаты медаль, белае воблака, чыстая вада, густая трава.

**23.** Спішыце, пастаўце прыметнікі ў патрэбным родзе і склоне.

Дзеці сабраліся каля *(стары)* млына. Гэта было самае *(любімы)* месца іх гульняў. Вакол *(зялёны)* мурог, а з *(правы)* і з *(левы)* боку *(густы)* жыта. З *(шаў-*

*ковы)* травы пазіралі *(жоўты)* кветачкі. Тут з раніцы да *(позні)* вечара добра гуляць у хованкі. *(Паводле А. Кулакоўскага)*

- Абазначце род і склон прыметнікаў, якія змянялі.
- Чаму трава названа *шаўковай*? Ад якога аднакаранёвага назоўніка ўтвораны прыметнік *шаўковы*?
- Назавіце словы з мяккім гукам [ц'] і цвёрдым гукам [ц].



*Муро́г* — маладая сакавітая зялёная трава.



**24.** Прачытайце. Выпішыце назоўнікі разам з прыметнікамі ў родным склоне. Абазначце канчаткі выпісаных назоўнікаў і прыметнікаў.

Каля зялёнага дачнага доміка расла маладзенькая вішня. Трава ўжо вырасла і была засыпана пялёсткамі белага цвету, што асыпаецца з нашай прыгожай вішні. Новага ўбору — барвовай спелай ягады — мы чакаем праз два месяцы. А пакуль што вішанька жадае добрага дажджавога напою, каб у хуткім часе парадаваць нас сваімі смачнымі дарамі.

- У якую пару года асыпаецца цвет з вішні, яблыні і іншых дрэў?

## Давальны склон

**25.** Запішыце спалучэнні слоў у давальным склоне. Абазначце канчаткі прыметнікаў. (Пры неабходнасці звяртайцеся да табліцы на с. 11—12.)

Цёплы сухі летні дзень, лясное глыбокае сіняе возера, доўгая глухая асенняя ноч.

Прыметнікі мужчынскага і ніякага роду ў давальным склоне маюць канчаткі ***-ому, -аму, -яму;*** жаночага роду — ***-ой, -ай, -яй.***

**26.** Дапішыце да дзеясловаў назоўнікі з прыметнікамі ў давальным склоне. Выдзеліце канчаткі прыметнікаў.

У з о р. *Аддаць* (к а м у?) *старэйш*[*аму*] *брату*.

Расказаць (к а м у?) *(дарагая мама)*,
прачытаць (к а м у?) *(маленькі хлопчык)*,
прысвечаны (ч а м у?) *(урачыстае свята)*,
радавацца (ч а м у?) *(вясёлая песня)*.

● Складзіце і запішыце два сказы з утворанымі словазлучэннямі (на выбар).

**27.** Прачытайце. Знайдзіце назоўнікі з прыметнікамі ў давальным склоне. Вызначце іх род. Спішыце, абазначце канчаткі прыметнікаў.

На змену цёпламу лету і дажджлівай восені прыйшла зіма. Дзень стаў кароткі, а вечар — доўгі. Сумна малой Тані. Бяжыць яна да дзеда. Той пачынае расказваць маломуdзіцяці казкі. А як пойдзе Таня ў школу, то сама будзе чытаць старому дзеду свае кніжкі. *(П. Паўлаў)*

**28.** Спішыце. Пастаўце прыметнікі ў давальным склоне, вызначце іх род.

*(Галодны)* зайцу выбіраць не прыходзіцца. Ён рады *(любы)* харчу. Удзень *(шэры)* палахліўцу трэба быць асабліва асцярожным. Ён сам можа папасціся на абед *(рыжы)* шэльме. *(П. Паўлаў)*

- Каго ў дадзеным выпадку называюць *рыжай шэльмай*?



*Ше́льма* — хітры чалавек або звер (*рус.* плут, плутовка).

**29.** Вусна складзіце апавяданне пра лісу. Пастарайцеся выкарыстаць як мага больш прыметнікаў.





**30.** Словазлучэнні пастаўце ў давальным склоне і перакладзіце іх на беларускую мову. Запішыце. Абазначце канчаткі прыметнікаў.

Осенний день, летнее утро, поздний вечер, морозная ночь, холодный ветер.

## Вінавальны склон

**31.** Запішыце спалучэнні слоў у вінавальным склоне. Абазначце ў іх канчаткі прыметнікаў. (Пры неабходнасці звяртайцеся да табліцы на с. 11—12.)

Цёплы сухі летні дзень, роднае дарагое сіняе неба, доўгая глухая асенняя ноч.

● У якіх склонах канчаткі прыметнікаў мужчынскага і ніякага роду супадаюць?

**32.** Прачытайце. Спішыце сказы. Абазначце канчаткі прыметнікаў у вінавальным склоне. Пастаўце націск у прыметніках.

1. Нечакана мы папалі пад халодны восеньскі дождж. 2. Бацька запрог маладога дужага каня. 3. Я гляджу праз чыстае малое акенца. 4. Паляўнічы ўбачыў рыжага лася. 5. Алесі купілі прыгожую сінюю сукенку.

Прыметнікі мужчынскага роду ў вінавальным склоне маюць канчаткі ***-ога, -ага, -яга,*** калі яны звязаны з назоўнікамі, якія абазначаюць жывую істоту; ***-ы, -і*** — ва ўсіх астатніх выпадках.

Прыметнікі ніякага роду ў вінавальным склоне маюць канчаткі ***-ое, -ае, -яе.***

Прыметнікі жаночага роду ў вінавальным склоне маюць канчаткі ***-ую, -юю.***

**33.** Прачытайце. Спішыце. Падкрэсліце дзейнік і выказнік. Абазначце род і склон выдзеленых прыметнікаў.

1. **Яркае** сонца выглянула з-за хмар. Я гляжу на **яркае** сонца толькі праз цёмнае шкло. 2. Ад будынка на снезе працягнуўся доўгі **цень**. Алесь памераў крокамі доўгі **цень**. 3. Снег засыпаў **школьны** двор. Дзеці выйшлі на **школьны** двор і пачалі зграбаць пульхны снег. Хутка **школьны** двор ачысціўся ад снегу.




Каб вызначыць, у назоўным ці ў вінавальным склоне стаіць прыметнік мужчынскага або ніякага роду, можна падставіць прыметнік жаночага роду. Напрыклад: *убачыў лясны ландыш* (Н. ці В. скл.?) — *убачыў лясную кветку* (В. скл.). Канчаткі прыметнікаў жаночага роду ў вінавальным склоне не супадаюць з канчаткамі ў назоўным.

**34.** Пастаўце словазлучэнні ў вінавальным склоне. Складзіце з імі сказы і запішыце.

Родны бацька, стары чалавек, моцны вецер, жоўтая асенняя кветка, спелы яблык, сярэбраны медаль.

**35.** Прачытайце. Вызначце род і склон выдзеленых прыметнікаў.



Аднойчы позна вечарам я ўбачыў у траве **прыгожага светлячка. Прывабны светлячок** прыгожа свяціўся, і мне захацелася паказаць гэта дзіва сваёй **маленькай дачушцы.** Я злавіў светлячка і пасадзіў яго ў **пусты карабок** з-пад запалак.

Калі праз нейкі час я зазірнуў у карабок, ніякага дзіва не было: **маленькі светлячок** не свяціўся.

Думаючы, што ён задыхнуўся ў карабку і таму перастаў свяціцца, я выпусціў светлячка ў **невысокую траву.**

І цуд! На волі светлячок зноў ажыў, зноў засвяціўся! *(Паводле Б. Сачанкі)*

● Складзіце план для пераказу тэксту. Вусна перакажыце тэкст.



**36.** Прачытайце. Спішыце. Дапішыце канчаткі прыметнікаў, абазначце іх род і склон.

### Сымон Будны

У Нясвіжы стаіць бронзав.. помнік. Яго акружае прыгож.. вянок з ліп і клёнаў. Гэта помнік беларуск.. асветніку Сымону Буднаму. Ва ўсім свеце вядома імя гэтага вялік.. гуманіста і вучонага. Ён працягваў асветніцк.. справу Скарыны.

Пасля заканчэння вучобы Будны пайшоў на настаўніцк.. работу. Потым у Нясвіжы ён заснаваў не-

вялік.. друкарню. Там Будны і выдаў першую на Беларусі кнігу на роднай мове. *(М. Дзелянкоўскі)*

- Разбярыце па саставе прыметнік *бронзавы.*



*Гумані́ст* — чалавек, прасякнуты любоўю да людзей.
*Асве́тнік* — той, хто нясе людзям веды.

## Творны склон

**37.** Прачытайце. Знайдзіце і назавіце прыметнікі ў творным склоне. Вызначце іх род (у адзіночным ліку).

Было вельмі хораша выйсці на вялікую паляну з духмяным цветам грэчкі. Белае як снег поле з трох бакоў было акаймавана зялёнаю сцяною сосен. Над лісцяным зараснікам сям-там драмалі кучаравыя дубы. За ўсім гэтым у непарушнай урачыстасці стаяў высокі і густы бор. *(М. Паслядовіч)*

- Назавіце прыметнікі ў назоўным склоне.

**38.** Запішыце наступныя спалучэнні слоў у творным склоне. У прыметніках абазначце канчаткі. (Пры неабходнасці звяртайцеся да табліцы на с. 11—12.)

Цёплы сухі летні дзень, лясное глыбокае сіняе возера, доўгая глухая асенняя ноч.

- Ва ўсіх словах выдзеліце аснову.

Прыметнікі мужчынскага і ніякага роду ў творным склоне маюць канчаткі ***-ым, -ім;*** жаночага роду — ***-ай, -ой, -яй*** або ***-аю, -ою, -яю.***

**39.** Прачытайце. Дапішыце ў сказы назоўнікі з прыметнікамі, пастаўце іх у творным склоне. Абазначце канчаткі прыметнікаў.

Усё лісце з дрэў пазрывала … … . Дарогі занясло … … … . Праз замерзлую раку можна праехаць толькі па … … . З … … прыйшла да нас зіма.

Словы для даведкі: *злосны вецер, сухі калючы снег, халоднае надвор'е, санная дарога.*

**40.** Перакладзіце сказы на беларускую мову, абазначце канчаткі прыметнікаў.

1. Синей лентой вьётся санная дарога. 2. Поздней зимней ночью началась метель.

● Параўнайце канчаткі прыметнікаў у творным склоне ў рускай і беларускай мовах. У чым асаблівасці творнага склону назоўніка *ноч*?

**41.** Прачытайце. Назавіце прыметнікі і іх склон.

Пад акном Насцінага дома расла маладзенькая яблыня. Вясною, калі яна цвіла, падняўся моцны

вецер. Ён так нагінаў і хістаў галлё, што адна галінка не вытрымала, надламалася. Пашкадавала Насця галінку: замазала глінай, абкруціла анучкай, быццам забінтавала рану.

Мінуў дзень, другі, а кветкі на галінцы не завялі. Над белай яблыняй звінелі залацістыя пчолы.

З'явілася завязь, а потым — і яблычкі. Яны раслі, наліваліся, пачалі ружавець.

У канцы лета яблыкі выспелі. Як ружовыя мячыкі, віселі яны, налітыя салодкім сокам. Сарвала Насця яблык, са смакам з'ела. І хоць на яблыні было шмат яблыкаў, самым смачным здаўся той, што вырас на яе, Насцінай, галінцы. *(М. Капыловіч)*

● Дайце тэксту загаловак. Складзіце і запішыце план апавядання. Вусна перакажыце яго па плане. Пры пераказе ўжывайце прыметнікі.



**42.** Прачытайце. Выпішыце прыметнікі, устаўце прапушчаныя літары, вызначце склон прыметнікаў.

### Босы карандаш

Маляваў Багданка
алоўкам:
рэчку
ч..рвоным
і ч..рвоным клёны,

хату
з..лёным
і з..лёным коней,
жо..тым ката —
глядзець любата!
Маляваў сябе самога:
сінім
кашулю,
з..лёным
штаны.
А дайшоў да ног —
маляваць не змог.
Сказаў маме:
— Ма,
босага карандаша
няма.

*І. Струцюк*
*(пераклад В. Віткі)*

## Месны склон

**43.** Прачытайце верш. Вусна вызначце род і склон прыметнікаў, назавіце ў іх суфіксы і канчаткі.

Квецень радасна ступае
па яшчэ вільготнай глебе.
Шчодра песню рассыпае
мілы жаўранак у небе.

Як усё наўкруг прыгожа!
І ляціць, ляціць дарога
да суседняй вёскі, можа,
ці да парку гарадскога.
У вясеннім лёгкім гудзе
непаўторны край мой родны.
А навокал — людзі, людзі,
з тварам сонечна-лагодным.

*М. Дукса*

● З канчаткамі якога склону супадаюць канчаткі прыметнікаў мужчынскага і ніякага роду ў месным склоне?
● З канчаткамі якіх склонаў супадаюць канчаткі прыметнікаў жаночага роду ў месным склоне? (Пры неабходнасці звяртайцеся да табліцы на с. 11—12.)

Прыметнікі мужчынскага і ніякага роду ў месным склоне маюць канчаткі ***-ым, -ім;*** жаночага роду — ***-ой, -ай, -яй.***

**44.** Прачытайце. Спішыце, устаўце прапушчаныя літары.

Па тонк..м лядку, на сух..м лістку, у сін..м моры, аб прыгож..м возеры, на летн..й зары, на мякк..й падушцы.

● Вусна перакладзіце словазлучэнні на рускую мову. Параўнайце канчаткі меснага склону прыметнікаў у рускай і беларускай мовах.

**45.** Прачытайце спалучэнні слоў і запішыце ў месным склоне. У прыметніках абазначце канчаткі. (Пры неабходнасці звяртайцеся да табліцы на с. 11—12.)

**Цёплы сухі летні дзень, лясное глыбокае сіняе возера, доўгая глухая асенняя ноч.**

**46.** Прачытайце. Пастаўце прыметнікі ў патрэбным склоне.

**Сонечны вераснёвы дзень. У *(залаты)* убранні маленькая бярозка. Трапечуцца на *(асенні)* ветрыку нітачкі павуціння. На *(серабрыстая)* нітачцы маленькі павучок.**

**Рэзка дыхнуў халодны вецер і адарваў ад *(тонкая)* галінкі *(серабрыстая)* нітачку. Паплыла яна ў блакіце *(восеньскае)* неба.**

**Можа, гэта павучок у вырай адлятае? *(Паводле Ф. Рамашкі)***

● Спішыце. Абазначце род і склон прыметнікаў.



**47.** Раскрыйце дужкі. Запішыце. Абазначце канчаткі прыметнікаў і назоўнікаў.

**Жыць у *(высокі дом)*, купацца ў *(цёплае мора)*, спаць на *(мяккая канапа)*, гуляць у *(прыгожы парк)*, марыць аб *(летні адпачынак)*, ехаць па *(шырокая вуліца)*, мяч на *(футбольнае поле)*.**

## СКЛАНЕННЕ ПРЫМЕТНІКАЎ У МНОЖНЫМ ЛІКУ

**48.** Разгледзьце табліцу. Як скланяюцца прыметнікі ў множным ліку?

| | | | |
|---|---|---|---|
| **Адзіночны лік** | | | |
| высокі прыгожы дом (*м. р.*) | | | |
| **Множны лік** | | | |
| Н. якія? | высокія | прыгожыя | дамы |
| Р. якіх? | высокіх | прыгожых | дамоў |
| Д. якім? | высокім | прыгожым | дамам |
| В. якіх? | дарагіх | родных | братоў |
| якія? | высокія | прыгожыя | дамы |
| Т. якімі? | высокімі | прыгожымі | дамамі |
| М. аб якіх? | аб высокіх | прыгожых | дамах |
| **Адзіночны лік** | | | |
| сіняя палявая кветка (*ж. р.*) | | | |
| **Множны лік** | | | |
| Н. якія? | сінія | палявыя | кветкі |
| Р. якіх? | сініх | палявых | кветак |
| Д. якім? | сінім | палявым | кветкам |
| В. якіх? | дарагіх | пяшчотных | бабуль |
| якія? | сінія | палявыя | кветкі |
| Т. якімі? | сінімі | палявымі | кветкамі |
| М. аб якіх? | аб сініх | палявых | кветках |

| **Адзіночны лік** | | | |
|---|---|---|---|
| лёгкае белае воблака *(н. р.)* | | | |
| **Множны лік** | | | |
| Н. я к і я? | лёгкія | белыя | воблакі |
| Р. я к і х? | лёгкіх | белых | воблакаў |
| Д. я к і м? | лёгкім | белым | воблакам |
| В. я к і х? | дарагіх | вясёлых | дзяцей |
| я к і я? | лёгкія | белыя | воблакі |
| Т. я к і м і? | лёгкімі | белымі | воблакамі |
| М. а б я к і х? | аб лёгкіх | белых | воблаках |

Прыметнікі ў множным ліку па родах не змяняюцца.

**49.** Прачытайце. Выпішыце прыметнікі разам з назоўнікамі. Абазначце канчаткі прыметнікаў і вызначце іх склон.

### Як жылі першабытныя людзі

Існаванне першабытных людзей залежала ад многіх абставін. Яны не ўмелі апрацоўваць зямлю. У іх не было свойскай жывёлы.

Прайшлі тысячагоддзі. Людзі навучыліся рабіць з вострага каменя прылады працы. З новымі прыладамі ды з вогнішчам першабытныя людзі сталі менш залежаць ад прыроды. Яны збіраліся ў вялікія гурты і

палявалі на дзікіх жывёл. Людзі заганялі цэлыя статкі ў спецыяльныя пасткі. Дзякуючы гэтаму яны мелі свежае мяса, цёплыя шкуры для адзення. *(Паводле С. Тарасава)*

**50.** Пастаўце назоўнікі *сяброўка, сваяк, дзень, дрэва* ў вінавальным склоне множнага ліку. Далучыце да іх прыметнікі *дарагі, блізкі, марозны, сухі* ў патрэбным ліку і склоне. Атрыманыя словазлучэнні дапішыце да наступных дзеясловаў.

Віншую ... ... , сустракаю ... ... , люблю ... ... , убачыў ... ... .

**51.** Прачытайце. Пастаўце прыметнікі ў тым жа родзе, ліку і склоне, што і назоўнікі, да якіх яны адносяцца.

Наша сталіца, горад-герой Мінск, гасцінна сустракае *(добры)* людзей. У сэрцах нашых гараджан гарацъ *(шчыры)* пачуцці дабраты і прыхільнасці да *(сумленны)* людзей усяго свету.

Мы любім нашу *(блакітны)* планету, сваю *(родны)* зямлю. І мы зробім усё, каб над яе *(зялёны)* палямі, *(шырокі)* рэкамі, *(сіні)* азёрамі было *(ясны)* неба і свяціла *(шчодры)* сонца. Каб тут заўсёды весела звінелі *(дзіцячы)* галасы. *(Паводле І. Шамякіна)*

● Спішыце другі абзац тэксту. Абазначце канчаткі прыметнікаў.

*гараджа́не*



**52.** Прачытайце верш. Спішыце. Вызначце склон назоўнікаў і прыметнікаў. Абазначце канчаткі.

## Рэха

Рэха ходзіць па бары,
па густым па гушчары,
па карчах яловых,
па імхах шаўковых,
па дубах, па соснах,
па елках высозных.

*А. Лойка*

**53.** Прачытайце. Складзіце і запішыце план тэксту. Выпішыце апорныя словы і словазлучэнні да кожнага пункта плана.

## Па́церкі на снезе

Дзед з унучкай Любачкай паехалі па сена. Стажок стаяў на ўзлессі. Летам тут расла высокая трава, красавалі прыгожыя кветкі. Цяпер усё засыпана белым халодным снегам. І стажок — як вялікая снежная шапка.

Дзед наклаў сена на сані. Прыемна запахла сушанай травой. Раптам Любачка ўбачыла на снезе чырвоныя кропелькі. Нібы маленькія пацеркі. Што гэта?

Дзед растлумачыў, што гэта божыя кароўкі ў стажку зімуюць. Яны могуць замерзнуць.

Любачцы стала шкада божых каровак.

Яна сабрала іх у карабок ад запалак. Няхай спяць да вясны. А вясной яна іх зноў выпусціць на зялёны луг. *(Паводле Ф. Рамашкі)*

● Перакажыце тэкст па плане, карыстаючыся апорнымі словамі і словазлучэннямі. Запішыце пераказ.



*Па́церкі — рус.* бусы.



**54.** Складзіце і запішыце сказы. Абазначце канчаткі прыметнікаў і іх склон.

| | |
|---|---|
| ... жывуць у | *(чысты, прыгожы)* гарады |
| ... ма́раць аб | *(летні, сонечны)* дні |
| ... успышкі | *(яркі)* маланкі |
| ... лісце | *(малады)* дрэвы |

## ШТО МЫ ВЕДАЕМ?

1. Што такое прыметнік?
2. З якой часцінай мовы звязаны прыметнікі ў сказе?
3. Як змяняюцца прыметнікі?
4. Як вызначыць род, лік і склон прыметнікаў?
5. Якія канчаткі маюць прыметнікі мужчынскага, жаночага і ніякага роду ў назоўным склоне? Прывядзіце прыклады.
6. Якія канчаткі маюць прыметнікі ў множным ліку ў назоўным склоне?

# ЗАЙМЕННІК

## ЗАЙМЕННІК ЯК ЧАСЦІНА МОВЫ




Пазнаёмцеся з **займеннікам** — верным памочнікам іншых часцін мовы. Называюць яго так таму, што ўжываецца ён замест слоў-назваў. Напрыклад: ***Мы** любім **нашу** краіну і хочам, каб **яна** была магутнай і шчаслівай.*

**55.** Прачытайце загадкі. На што ўказвае слова *ён* у першай, другой і трэцяй загадках?

1. **Ён** ні рук, ні ног не мае, але яблыкі страсае.
2. Хоць **ён** побач ідзе, а рукамі не возьмеш.
3. Хоць зубоў **ён** і не мае, а балюча нас кусае.

Словы для даведкі: *вецер, мароз, цень*.

● Спішыце першы сказ, устаўце патрэбнае слова замест слова *ён*.

**56.** Прачытайце. Звярніце ўвагу на выдзеленыя словы. Замест якіх слоў ужыта кожнае з іх?

Многа дзяцей у нашым двары. І ўсе **яны** ў адзін голас скажуць, што няма ў свеце лепшага знаўца

самалётаў, чым Янка. **Яму** не задача па сілуэце пазнаць марку самалёта, які ляціць у самым паднябессі. **Ён** не саб'ецца, пералічваючы імёны славутых лётчыкаў. Не ведаць, хто **яны** такія і што зрабілі, — значыць быць у Янкавых вачах чалавекам нічога не вартым. *(Паводле М. Лынькова)*

● Выпішыце выдзеленыя словы разам з тымі, замест якіх яны ўжыты.

Узор. *Яны (лётчыкі), яго (хлапчука).*

**Займеннік —** часціна мовы, якая ўказвае на асобу ці прадмет, але не называе іх.

**Я, ты, ён, яна, яно** — займеннікі адзіночнага ліку. **Мы, вы, яны —** займеннікі множнага ліку.

**57.** Прачытайце жарт. Назавіце займеннікі. Вызначце іх лік.

— Антось, ты напісаў вельмі добры пераказ. Але ён такі ж самы, як у Аліны. Што гэта значыць?

— Я думаю, гэта значыць, што яна таксама напісала вельмі добры пераказ.

● Які загаловак да тэксту падаецца вам найбольш адпаведным:

1. *Не разгубіўся;*
2. *Просты адказ;*
3. *Нездагадлівая настаўніца?*

**58.** Разгледзьце малюнкі. Прачытайце сказы. На каго ўказваюць займеннікі ў кожным выпадку?





Ён не заўважыў іх.





Яна падзякавала ім.

- Складзіце па малюнках сказы з назоўнікамі.
- Запішыце сказы з займеннікамі і складзеныя вамі сказы з назоўнікамі па ўзоры.

У з о р. *Яны не зводзяць з яе вачэй. — Вучні не зводзяць вачэй з настаўніцы. Бацькі не зводзяць вачэй з малой дачкі.*



**59.** Прачытайце. Пры чытанні ўстаўляйце замест кропак патрэбныя займеннікі. Вусна вызначце іх лік.

Кася з Янкам пайшлі ў бярозавы гай суніцы збіраць. Ідуць ... павольна, на ўсе бакі аглядаюцца.

— ... не бойся, Кася. Калі выскачыць воўк, ... цябе абараню, — гаворыць Янка сястры.

— А ... і не баюся, — адказвае ... . А ў самой сэрца стукае моцна-моцна. *(Паводле Л. Марціновіч)*

- Дайце тэксту загаловак.




Займеннікі дапамагаюць нам пазбегнуць паўтарэння адных і тых жа слоў. Напрыклад: *З'явіліся першыя* ***кветкі****. Але не шукайце* ***іх*** *на* ***зямлі*** *—* ***яна*** *яшчэ пакрыта снегам.*

**60.** Прачытайце размову паміж назоўнікам і займеннікам.

— Я, назоўнік, — неабходнае людзям слова. У мяне ёсць самастойнае значэнне. Яно ўсім зразумела. А якая карысць ад цябе, займенніка?






— Вы, назоўнікі, заўсёды абазначаеце адно і тое ж. А мы, займеннікі, у розных сказах маем розны сэнс. Слова ***ён*** можа замяніць мноства розных назоўнікаў! Мы замяняем вас, каб вы не паўтараліся і не надакучылі людзям.

- Чым адрозніваюцца назоўнікі і займеннікі?
- Для чаго ў маўленні служаць займеннікі?
- Назавіце займеннікі ў тэксце.

**61.** Прачытайце. З дапамогай якой часціны мовы можна пазбегнуць паўтораў у гэтым тэксце?

Ефрасіння Полацкая займае пачэснае месца ў нашай стар**а**жытнай гісторыі. Ефрасіння Полацкая была першай асветніцай беларускай з**я**млі. Імя князё**ў**ны стала сімвалам імкнення да ведаў, таму імя князё**ў**ны перажыло стаго**дд**зі.

Князёўна таемна **ўц**якла ў манастыр. Там князёўна чытала, перапісвала кнігі і нават пісала летапісы. *(Паводле У. Бутрамеева)*

- Спішыце тэкст з тымі папраўкамі, якія вы ўнеслі ў яго.
- Растлумачце правапіс выдзеленых літар.

**62.** Прачытайце. Пастаўце склонавыя пытанні да выдзеленых займеннікаў.

**Ты** не мог бы **мне** дапамагчы? Без **цябе** я не спраўлюся. **Я** дам **табе** анучку, каб сцерці пыл. А яшчэ папрашу **цябе** паліць кветкі. З **табой** **мы** хутка спра-



вімся. Тады я змагу сказаць пра **цябе:** ты мой лепшы памочнік.

*памо́чнік*

- Запішыце слоўнікавае слова. Запомніце яго напісанне.

**63.** Прачытайце, што расказвае пра сябе займеннік *вы.* Адкажыце на пытанне.




Я ўказваю не толькі на некалькі асоб. Розныя народы здаўна ўжывалі мяне пры ветлівым звароце да старэйшых. У лістах і паштоўках пішыце мяне з вялікай літары. Гэта знак павагі да чалавека: *«Шаноўная Ганна Міхайлаўна! Віншуем* ***Вас*** *з днём нараджэння!»*.

- Чаму займеннік *Вас* напісаны з вялікай літары?

**64.** Прачытайце ліст дзяўчынкі да яе цёткі. Які займеннік пішацца з вялікай літары? Чаму?

*Дарагая **ц**ётачка Марына!*

*Нам шкада, што Вы так мала пагас**ц**явалі. Мы без Вас сумуем. Нават Біму Вас не хапае. Ён хо**дз**іць апусціўшы хвост пасля Вашага ад'езду. Ніхто не **ў**мее гэтак развес**я**ліць усіх, як Вы.*

*Тата і мама шлюць Вам прывіта**нн**і. Калі Вы зноў да нас прые**дз**еце?*

*Ваша пляменніца Дзіна.*

- Спішыце. Растлумачце правапіс выдзеленых літар.
- Падкрэсліце займеннікі.



**65.** Напішыце ліст свайму старэйшаму сваяку па ўзоры практыкавання 64. Не забывайце пісаць зварот *Вы* з вялікай літары.

## ЗАЙМЕННІКІ 1, 2, 3-й АСОБЫ




Займеннікі бываюць 1, 2 і 3-й асобы. Асоба займенніка залежыць ад таго, на каго (што) ён указвае.

| | |
|---|---|
| 1-я асоба | я, мы |
| 2-я асоба | ты, вы |
| 3-я асоба | ён, яна, яно, яны |

**66.** Прачытайце. Назавіце спачатку займеннікі 1-й асобы, а потым 2-й і 3-й.

Летам я жыў у вёсцы. Аднойчы хлопчыкі паказалі мне цудо..ную хатку. Вы ніколі не бачылі такіх хат! Над вокнамі былі прымацаваны дра..ляныя фігуркі казачных герояў. Яны былі як сапра..дныя! Здавалася, што зараз з табой пачне разма..ляць Бура..іна ці Мікі Маус. Мы не маглі адысці ад хаткі-казкі. Нам ха..елася ўбачыць, хто ў ёй жыве.

- Спішыце, устаўляючы патрэбныя літары.

**67.** Прачытайце. Устаўце патрэбныя займеннікі. Карыстайцеся словамі для даведкі.

**Камарыная гара**

Прыцемкі апусціліся на гару. ... кладзецца спаць. Гудзе паветра, поўнае камароў. Адзін камарык падляцеў да ... . Пісклявым галаском ... павітаўся са ... на камарынай мове: «Дзы-ы-ын!»

Людзі кажуць, што там, дзе таўкуцца камары, трэба капаць калодзеж. У ... заўсёды будзе багата вады. *(Паводле М. Бусько)*

Словы для даведкі: *мяне, ім, яна, ён, мной.*

- Вызначце асобу і лік займеннікаў *ён, яна*.
- Замест якіх слоў ужыты займеннікі *ён, яна, ім*?

**68.** Прачытайце. Устаўце займеннікі, якія павінны быць дзейнікамі ў сказах.

1. ... ніколі не спрачаюся з сябрамі. 2. Куды ... паедзеш у нядзелю? 3. ... спачатку робім урокі, а потым гуляем. 4. Ці любіце ... балет? 5. ... вырашыла стаць балерынай.

*балеры́на*

- Назавіце асобу і лік займеннікаў, якія вы ўставілі.
- Спішыце сказы. Падкрэсліце дзейнікі і выказнікі.
- Назавіце сказы з аднароднымі членамі.

**69.** Прачытайце тэкст. Замест назоўнікаў, якія паўтараюцца, устаўце патрэбныя займеннікі.

Атаман — в..лікі калматы сабака. Адно вуха ў *(сабакі)* тырчыць, а другое вісіць. Жыве *(сабака)* за хлявом. Дзед паклаў у ж..лезную бочку саломы. Атаман вырыў у *(саломе)* н..ру. Вось і гатова жыл..ё. Атаман браха.. р..дка. Затое, калі *(Атаман)* падаваў голас, дык уся вёска чула. *(Паводле У. Ягоўдзіка)*

Словы для даведкі: *яго, ён, ёй.*

- Растлумачце напісанне прапушчаных літар.
- Які род слова *сабака* ў беларускай і рускай мовах?
- Выпішыце з тэксту тры сказы, якія адпавядаюць пытанням:

1. ш т о р о б і ц ь? х т о? д з е?
2. х т о? ш т о з р а б і ў? у ч ы м? ш т о?
3. х т о? ш т о р а б і ў? я к?



**70.** Прачытайце сказы. Вусна замяніце выдзеленыя назоўнікі займеннікамі. Якой асобы гэтыя займеннікі?

Выр..слі ў лесе блакітныя **красачкі.** Зацвіла пахучая **ч..ромха** ў гаі. Замільгаў у паветры легкакрылы **матылёк.** Выле..ела працавітая **пч..лка** з вулея.

У з о р. *Матылёк — ён.*

- Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары.
- Назавіце ў кожным сказе дзейнік, выказнік і дадзеныя члены сказа.

**71.** Прачытайце, як займеннікі змяняюцца па склонах. Назавіце склон кажнага з выдзеленых займеннікаў. Звяртайцеся да гэтай табліцы, выконваючы практыкаванні.

**Адзіночны лік**

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Н. х т о? | я | ты | ён, яно | яна |
| Р. к а г о? | мяне | **цябе** | яго | яе |
| Д. к а м у? | мне | **табе** | яму | ёй |
| В. к а г о? | мяне | цябе | яго | яе |
| Т. к і м? | мной<br>мною | табой<br>табою | імі | ёй<br>ёю |
| М. а б к і м? | аба мне | **аб табе** | аб ім | аб ёй |

**Множны лік**

| | | | |
|---|---|---|---|
| Н. х т о? | мы | вы | яны |
| Р. к а г о? | нас | вас | іх |

| | | | |
|---|---|---|---|
| Д. к а м у? | нам | вам | ім |
| В. к а г о? | нас | вас | іх |
| Т. к і м? | намі | вамі | імі |
| М. а б к і м? | аб нас | аб вас | аб іх |

**72.** Прачытайце. Знайдзіце займеннікі. Вызначце іх склон.

У далёкія часы людзі верылі, што побач з імі жывуць розныя багі. У іх прасілі дапамогі на полі, на рыбалцы, на паляванні.

Галоўны бог меў некалькі імёнаў, але найчасцей яго называлі Род. Ён гаспадарыў на зямлі і ў небе, кіраваў вятрамі і рухам сонца. Табе цікава будзе даведацца, што з імем Рода ў нашай мове звязана шмат важных слоў: радзіма, народ, родзіч, нараджэнне, прырода, ураджай. *(Паводле У. Арлова)*

- Выпішыце займеннікі разам з прыназоўнікамі. Як трэба пісаць займеннікі з прыназоўнікамі?
- Назавіце ў другім сказе аднародныя члены.

**73.** Прачытайце. Выберыце адну з прапанаваных у дужках форм займенніка *ты.*

### Гутарка Асоту з Крапівою

— Што ты штурхаеш мяне? — крычала Крапіва Асоту.

— Ці я *(табе, цябе)* роўня? Нічога ты не робіш. Ніхто *(табе, цябе)* не ведае. А Крапіву кожны ведае, кожны спамінае, на кожным падворку расту я.

— Як жа, — адазваўся стары Асот, — я расту далей, бачаць мяне людзі радзей. Затое мае шпількі дык даўжэй помняць ад крапіўкі.

Падслухала іх гутарку малая Марута і кажа:

— Не хваліцеся: абое вы рабое! Матулька казала, што абодвух вас з карэннем выдзера. *(Паводле А. Пашкевіч)*

- Знайдзіце ў тэксце ўсе вядомыя вам займеннікі, вусна вызначце іх лік і склон.



*Або́е рабо́е* — *рус.* два сапога пара; одного поля ягоды.

**74.** Прачытайце. Замяніце выдзеленыя назоўнікі займеннікамі.

Дудар спяваў пра свой народ. **Дудар** зваў людзей да лепшага жыцця. Людзі чулі праўду ў песнях. Аднойчы багаты пан пасадзіў **дудара** ў склеп. Дудар заспяваў сумную песню. Вецер данёс **песню** да людзей. **Людзі** вызвалілі свайго дудара. *(Паводле Я. Коласа)*

- Запішыце тэкст, які ў вас атрымаўся.
- У кожным сказе падкрэсліце галоўныя члены сказа.



*Скле́п* — *рус.* подвал, подполье.



**75.** Прачытайце. Замест кропак устаўце займеннікі ў родным, давальным або вінавальным склонах.

1. Калі спознішся, мы паедзем без ... . 2. Ці зразумееў ты, што ... трэба рабіць? 3. Скажы, хто ... пакрыўдзіў? 4. Волечка хоча, каб бацькі купілі ... новую ляльку. 5. Я не змог пагаварыць з Ірай, таму што ... не было дома. 6. Я б абавязкова дапамог, але ў ... баліць рука.

● Запішыце сказы. Падкрэсліце займеннікі.

**76.** Прачытайце, пастаўце займеннікі ў патрэбным склоне. Вызначце склон гэтых займеннікаў.

**Краб**

Краба я злаві**ў** і храбра
заха**ц**еў стаць сябрам краба.
Я *(ён)* сваю руку
Прац**я**гнуў як сябруку.
Варухнуўся раптам кра**б**
ды *(я)* па пальцу — шкраб.
Будзе *(я)* з *(ён)* толькі гора.
Кіну сябра зноў у мора.

*П. Марціновіч*

● Выпішыце словы з выдзеленымі літарамі. Растлумачце іх правапіс.

**77.** Змяніце сказы так, каб займеннікі ў іх сталі ў родным або вінавальным склоне. Змест сказаў пры гэтым павінен захавацца.

Ты маеш прыгожую сукенку. — ...
Яны цікавяцца гісторыяй. — ...
Яна сёння адсутнічае. — ...
Вы запрошаны ў госці. — ...
Я маю верных сяброў. — ...

● Запішыце першыя тры пары сказаў па ўзоры. Падкрэсліце займеннікі.

Узор. *Ён пакрыўджаны грубымі словамі.* — *Яго пакрыўдзілі грубыя словы.*

**78.** Прачытайце працяг гісторыі з практыкавання 59. Змяняйце, калі трэба, займеннікі ў дужках, як патрабуе сэнс.

Ідуць брат з сястрой па лесе. Страшна *(яны)*. А непадалёку ад *(яны)* затаілася пад кустом малое шэрае зайчанятка. Наставіла *(яно)* свае доўгія вушкі і слухае. Ці не ідзе паляўнічы са стрэльбай ды сабакамі?

Трэснула галінка. Зайчанятка спалохалася, падскочыла. Дзеці ўскрыкнулі і што было сілы кінуліся наўцёкі.

Дома маці пытаецца ўстрывожана:

— Што з *(вы)*?

— Страшэнны ваўчышча хацеў *(мы)* з'есці! *(Мы)* ледзь уцяклі ад *(ён)*.

А шэрае зайчанятка расказвае тым часам сваім братам:

— Гналіся за *(я)* паляўнічыя са стрэльбамі ды сабакамі. Толькі ногі хуткія *(я)* уратавалі. *(Паводле Л. Марціновіч)*

**79.** Прачытайце, дапоўніце сказы займеннікамі.

Што ... ведаем пра пінгвінаў? Звычайна ... жыву..ь у ва..е. Бераг патрэбны ... толькі для дзя..ей. Па з..млі гэтыя незвычайныя птушкі хо..яць на дзвюх нагах. У ва..е крылы пінгвінаў працуюць як ласты. На сушы ... параўноўваем ... з рукамі. А на галаве пінгвінаў смешна тырчыць до..гае пер..е. *(Паводле Я. Маўра)*

- Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары.
- У кожным сказе падкрэсліце дзейнік і выказнік.



**80.** Прачытайце, ужываючы замест слоў у дужках займеннікі.

Леў Сапега быў канцлерам Вялікага Княства Літоўскага.

Калі княжычу споўнілася шэсць гадоў, бацькі адвезлі *(хлопчыка)* вучыцца ў Нясвіж. У Нясвіжскім замку працавалі вядомыя вучоныя. *(Вучоныя)* ведалі старажытныя і сучасныя мовы. Беручы з *(вучоных)*

прыклад, Леў Сапега яшчэ ў дзяцінстве вывучыў лацінскую, грэчаскую, нямецкую і польскую мовы. Кожны дзень *(Сапегу)* бачылі ў замкавай бібліятэцы. *(Паводле У. Арлова)*

- Спішыце. Падкрэсліце ўстаўленыя займеннікі.



*Ка́нцлер* — другі чалавек пасля Вялікага князя ў Вялікім Княстве Літоўскім.

**81.** Прачытайце тэкст і план да яго. Пры чытанні стаўце займеннікі ў патрэбным склоне.

Аднойчы прывёз бацька Міколку кавалак **каменнага вугалю. Цікавы** быў камень. На адным баку *(ён)* **малюнак,** нібы выразаў нехта галінку. Дробнае лісцейка на *(яна)* разышлося веерам.

Расказвае бацька цікавыя гісторыі пра гэты камень. Быў ён тысячы год назад не каменем, а высокім дрэвам з гаманлівым лісцем зялёным. Найшла навальніца і паваліла дрэвы. Усю зямлю заслалі векавыя гіганты. *(Яны)* засыпаў **пясок.** Зацягнула **балотная твань.**

**Ляжаць** дрэвы пад зямлёй, **не гніюць. Дзясяткі, сотні і тысячы гадоў** ляжаць і камянеюць. А лісцейка **захоўвае свой малюнак** у акамянелым дрэве. Вось якая гісторыя гэтага малюнка. *(Паводле М. Лынькова)*



*Тва́нь* — гразкае, багністае месца (у балоце).

- Якія часткі тэксту адпавядаюць кожнаму пункту плана?

План

1. Міколка разглядае незвычайны падарунак.
2. Чым калісьці быў каменны вугаль?
3. Як атрымаўся малюнак на камені?

- Перакажыце вусна тэкст па плане. Карыстайцеся выдзеленымі словамі і словазлучэннямі як апорнымі.
- Прыдумайце загаловак да тэксту.
- Напішыце пераказ тэксту па плане.

## ШТО МЫ ВЕДАЕМ?

1. Якая часціна мовы называецца займеннікам?
2. Назавіце займеннікі 1, 2 і 3-й асобы.
3. Якая роля займеннікаў у маўленні? Прывядзіце прыклады.
4. Праскланяйце займеннікі ***я*** і ***ты***.
5. Калі займеннік ***вы*** трэба пісаць з вялікай літары? Чаму?

# ДЗЕЯСЛОЎ

## ДЗЕЯСЛОЎ ЯК ЧАСЦІНА МОВЫ




Успомніце, што вы ведаеце пра дзеяслоў.

Дзеясловы абазначаюць дзеянні і адказваюць на пытанні што робіць? што рабіў? што зрабіў? што будзе рабіць? што зробіць?

Дзеяслоў у сказе звычайна з'яўляецца выказнікам.

**82.** Прачытайце.

Чорныя снегавыя хмары павольна плылі па небе. Раптам падзьмуў моцны вецер. Хмары зацягнулі ўсё неба і нізка павіслі над зямлёй. І вось ужо гуляе, свішча па зямлі мяцеліца. Трывожна шумяць і стогнуць сосны. *(Паводле Я. Галубовіча)*

● Знайдзіце ў тэксце дзеясловы, пастаўце да іх пытанні і запішыце па ўзоры.

Узор. (Што робіць?) *шукае.*

**83.** Прачытайце. Якія словы ў радках лішнія? Растлумачце чаму.

**Звінець**, звонкі, адзвінець, гучаць.
Гуляць, пагуляць, гульня, разгуляцца.
Паляваць, пільнаваць, пайсці, паляванне.
Чысты, **чысціць**, расчысціць, адчысціць.

● Складзіце сказы з выдзеленымі словамі і запішыце. Падкрэсліце ў іх галоўныя члены. Якім членам сказа з'яўляецца дзеяслоў?

**84.** Да назоўнікаў падбярыце дзеясловы, якія абазначаюць дзеянні названых асоб. Дапоўніце атрыманыя сказы дадзенымі членамі і запішыце іх па ўзоры.

Узор. *Скрыпач іграе на скрыпцы.*

| | |
|---|---|
| Дзяўчынка | фарбуе |
| Настаўнік | лечыць |
| Доктар | будуе |
| Маляр | спявае |
| Будаўнік | вучыць |

**85.** Прачытайце. Якой часціны мовы не хапае ў тэксце? Спішыце, устаўляючы патрэбныя дзеясловы.

Вясна ... . Снег у полі ... і ... . На ўзгорках ... праталінкі. У лесе на дрэвах ... пупышкі. Весела ...

сінічкі на голым вецці. Звонка ... дзяцел на старой асіне. *(В. Кастручын)*

Словы для даведкі: *пацямнеў, асеў, чарнеюць, звіняць, грукае, прыйшла, набухаюць.*

● Абазначце дзеясловы прошлага і цяперашняга часу.

**86.** Прачытайце прыказкі. Растлумачце іх сэнс. Успомніце, як пішацца *не* з дзеясловамі.

1. Работу словам *(не)* замеціш.
2. Хто чужога *(не)* шануе, той свайго *(не)* мае.
3. Учарашняга дня *(не)* вернеш.

● Прыдумайце гісторыю, якую вы маглі б закончыць прыказкай *Работу словам не замеціш.*

**87.** Спішыце прыказкі, устаўце *не* перад дзеясловамі. Як зменіцца сэнс прыказак? Вызначце час дзеясловаў.

1. Хто людзям верыць, таму і людзі веры даюць.
2. Пра лугі забудзеш — без сена будзеш.
3. Хто пчол даглядае, той мёд спажывае.

**88.** Прачытайце. Дакажыце, што гэта тэкст-апавяданне. Падбярыце да яго загаловак (вусна). Вызначце час дзеясловаў.

Лёгкі ветрык кранае завушніцы бярэзіны. І дрэва сыпле на дол жменю семечак. Потым яшчэ жменю,

